# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamlenni

Сусьветнае сеціва: e-krama.com, pahonia.com
Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 8 (618)
Жнівень 2017 г.


## Марш Паняволеных Народаў на Мангэтане

У нядзелю, 16 ліпеня 2017 года, на Мангэтане адбыўся чарговы, гэтым разам ужо 59-ы, Марш Паняволеных Народаў. Гэтая імпрэза адбываецца штогод у рамках Тыдню Паняволеных Народаў. Пачынаючы з 1959 года, згодна з адмысловым урадавым законам, які быў падпісаны прэзыдэнтам Дўайтам Д. Айзэнгаўэрам, Тыдзень Паняволеных Народаў нагадвае пра тое, што правы і свабоды для шмат каго ў сьвеце ёсьць не штодзённая рэчаіснасьць, а далёкая мара і мэта змаганьня. У свой час Тыдзень Паняволеных Народаў даў пляцоўку ўцекачам ад камуністычнай тыраніі з Усходняй Эўропы, у тым ліку і беларусам, для пратэсту супраць расейскага камунізму, за супрацьстаяньне таталітарнаму паняволеньню ўсё новых народаў, якое адбывалася ў 1960-я і 1970-я гады, пераважна ў Азіі й Афрыцы. На працягу хутка ўжо 60 гадоў пад кіраўніцтвам Камітэту Паняволеных Народаў Нью-Ёрк рабіўся ў кожны трэці тыдзень ліпеня месцам публічных акцыяў ды масавых дэманстрацыяў этнічных амэрыканскіх арганізацыяў беларусаў, летувісаў, чэхаў, латышоў, харватаў, палякаў, венграў, украінцаў, славакаў, румынаў, сэрбаў, эстонцаў, татараў, казакоў, каўказцаў ды іншых прадстаўнікоў усіх краінаў Усходняй Эўропы, Кубы ды часткі Азіі, якія трапілі пад камуністычнае панаваньне.

У свой час у межах імпрэзаў Тыдня Паняволеных Народаў адбыліся такія акцыі, як пікеты каля савецкіх прадстаўніцтваў у Нью-Ёрку, Вашынгтоне й Лос-Анджэлесе, і такія дэманстрацыі, як у 1976 годзе каля Статуі Свабоды на 200-годзьдзе ЗША. На 30-годзьдзе Тыдня Паняволеных Народаў у 1988 годзе на яго ным адкрыцьці выступіў прэзыдэнт Рональд Рэйган. У ягонай прамове прагучэлі такія словы: "Амэрыка ніколі не забудзецца на пакуты паняволеных народаў па ўсім сьвеце, і мы ніколі не перастанем казаць праўду аб гэтым. Вашае змаганьне ёсьць і нашым змаганьнем. Вашая мара ёсьць і нашай марай. І мы верым, што неўзабаве вы зробіцеся вольныя." Тыя словы аказаліся прарочымі – праз год Усходняя Эўропа вызвалілася ад камунізму, а праз два гады зьнік СССР.

Нажаль, пасьля вызваленьня ад камунізму большасьць арганізацыяў-удзельнікаў Камітэту Паняволеных Народаў адыйшла ад актыўнай дзейнасьці па падтрымцы змаганьня супраць тыраніі й паняволеньня. У хуткім часе беларусы ўзнавілі актыўную дзейнасьць у працы Камітэту і працягваюць яе дасюль. Нажаль, для большасьці іншых этнічных арганізацыяў узаемная падтрымка і сумесныя намаганьні часоў змаганьня супраць Саветаў не далі разуменьня таго, што адраджэньне імпэрскіх рэваншысцкіх амбіцыяў Расеі, разгубленасьць і нерашучасьць кіраўнікоў Вольнага сьвету

працяг на бачыне 3




Беларуская дэлегацыя ля гатэлю "Пляза"

# Ліпеньскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 8 ліпеня, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня сп. Віталь Зайка прывітаў усіх прысутных і для новапрыбылых і гасьцей “Пагоні” распавёў пра тое, як дзейнічае гэтая беларуская грамадзкая арганізацыя ў Амэрыцы. Ён адзначыў, што Згуртаваньне “Пагоня” падтрымлівае беларускую прысутнасьць у Амэрыцы, змаганьне за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі, шануе беларускія нацыянальныя традыцыі, сымбалі, беларускую мову. Адбываюцца рэгулярныя сходы арганізацыі, у іх межах праводзяцца сустрэчы зь цікавымі асобамі, інфармацыйныя і тэматычныя мерапрыемствы. Наагул, рэгулярныя сходы зьяўляюцца патэнцыйнай пляцоўкай для навязваньня міжасабовых кантактаў і калегаваньня землякоў зь Беларусі. У рамках тэматычных імпрэзаў, прысьвечаных атрыманьне адукацыі ў ЗША і пытаньням пошуку працы, многія ўдзельнікі здабылі для сябе карысную інфармацыю і выкарысталі яе для набыцьця спэцыяльнасьці і атрыманьня добрай працы.

Акрамя гэтага “Пагоня” ладзіць сьвяткаваньні Дня Волі (угодкаў Акту 25 Сакавіка) і Дня Герояў (угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну). З удзелам сяброў “Пагоні” ды пад кіраўніцтвам яе сакратаркі сп-ні Валянціны Якімовіч, праводзяцца традыцыйныя беларускія абрады – Гуканьне Вясны і Купальле, распаўсюджваецца інфармацыя пра беларускія нацыянальныя традыцыі. Зьбіраюцца мітынгі ў падтрымку змаганьня за свабоду і дэмакратыю ў Беларусі, супраць дыктатарскага рэжыму і перасьледу апазыцыі. Рэгулярна штогод адбываюцца Чарнобыльскія мітынгі, часткаю якіх ёсьць пратэст супраць пабудовы атамнай электрастанцыі ў Беларусі на Астравеччыне насуперак грамадзкай апініі й пратэстам яе жыхароў. “Функцыянуе сайт арганізацыі ў сеціве **pahonia.com**, што апавяшчае пра маючыя адбыцца імпрэзы, а таксама старонка “Пагоні” на Фэйсбуку. Аказваецца пачатковая інфармацыйная дапамога для тых землякоў, што хацелі б зьмяніць статус у ЗША і атрымаць азыль. А галоўнае – “Пагоня” падтрымлівае беларускую прысутнасьць у Амэрыцы і ў Нью-Ёрку, ёсьць месцам, дзе можна пачуць беларускую мову, абмяняцца думкамі пра надзённыя і набалелыя пытаньні з жыцьця на Бацькаўшчыне, і проста пабавіць час сярод землякоў”.

Затым сп. Зайка распавёў пра беларускага адраджэнскага паэта Янку Лучыну-Неслухоўскага (1851-1897), якому ў ліпені спаўняецца 166 год з дня нарodзінаў. Прамоўца спыніўся на паасобных момантах біяграфіі паэта, адзначыўня толькі гістарычную каштоўнасьць, але і мастацкую якасьць вершаў Янкі Лучыны. Таксама было адзначана, што шляхецтва было той сацыяльнай групай на беларускіх землях, што дала найболей дзеячоў беларускага адраджэньня. Янка Лучына быў адным з культурніцкіх дзеячоў з кагорты А. Міцкевіча, Я. Баршчэўскага, Я. Чачота, В. Каратынскага, У. Сыракомлі, Ф. Багушэвіча – што былі чынныя таксама ў польскім культурніцкім руху, але нават пры тагачасных неспрыяльных грамадзка-палітычных умовах паўплывалі на фармаваньне беларускага нацыянальнага руху і запачаткавалі сучасную беларускую літаратуру. Яны мусяць быць ведамыя і шанаваныя нашчадкамі.

Затым сп. Зайка і сп-ня Валя Якімовіч прачыталі вершы Янкі Лучыны “Раскоша натхненьня”, “Як мора, хвалююцца...”, “Мароз”, “Рунь”, “Разьвітаньне”. Затым сп. В. Зайка адзначыў, што Янка Лучына перакладаў з грэцкай “Іліяду” Гамэра. Наагул, поруч з Бібліяй творы Гамэра і клясычная грэка-рымская культура зьяўляюцца падвалінамі цывілізацыі. Цяпер пасьпяхова ідзе праца па навуковым перакладзе Бібліі, і варта было б падумаць пра пераклад Гамэра па-беларуску, пра тую справу, што пачалі Лучына, Браніслаў Тарашкевіч, Юлі Таўбін – але якая дасюль не завершаная. Прысутныя адгукнуліся на прапанову стварыць фонд Беларускага Гамэра, і былі сабраныя першыя 100 даляраў на яго.

Пасьля сп-ня Валянціна Якімовіч распавяла пра традыцыйнае сьвята Купальля і пра тое, як прайшло сёлетняе сьвяткаваньне. Яна заклікала стварыць падрыхтоўчую групу, што практыкавала б купальскія ды іншыя традыцыйныя сьпевы.

Затым сп. Зайка распавёў пра маючы адбыцца 16 ліпеня Марш Паняволеных Народаў на Мангэтане і пра гісторыю яго стварэньня і ўдзелу ў ім прадстаўнікоў беларускай грамады.

У разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы з гасьцямі “Пагоні”, прагучэлі абвесткі й паведамленьні. Затым прысутныя мелі нагоду працягнуць калегаваньне пры сьціплых пачастунках.

***Віталь ЗАЙКА***



# “Спадчына: агледзіны”. Новая кніжная сэрыя, заснаваная сумесна ЗБС “Бацькаўшчына”, БДАМЛіМ і БІНіМ

*І ў белы дзень, і ў чорну ноч*
*Я ўсьцяж раблю агледзіны,*
*Ці гэты скарб ня збрый дзе проч,*
*Ці трутнем ён ня зьедзены.*

Гэтыя радкі зь верша клясыка ў 1981 годзе натхнілі Янку Запрудніка на напісаньне артыкула і пазьнейшае выданьне асобнай публікаткі “Спадчына бацькоў: “агледзіны”. Да 100-годзьдзя нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа”. Са згоды і блаславеньня Янкі Запрудніка яны сталі дэвізам і далі назву для новай кніжнай сэрыі, заснаванай сумесна менскімі Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету “Бацькаўшчына”, Беларускім дзяржаўным архівам-музэем літаратуры і мастацтва ды нью-ёркскім Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва.




Дакладней, “Спадчына: агледзіны” – падсэрыя ў вялікай кніжнай сэрыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны”, заснаванай ЗБС “Бацькаўшчына” ў 2004 годзе, аднак з асобнай канцэпцыяй. Адная з галоўных яе мэтаў: вярнуць зь небыцьця – выцягнуць з архіваў, са старой расьцярушанай пэрыёдыкі – важныя для беларускай гісторыі і культуры тэксты і даць іх у кніжным выглядзе сёньнешнім чытачам, ад студэнтаў да дасьледчыкаў, аднавіўшы такім чынам часавую сувязь. У падрыхтоўцы першых сэрыйных выданьняў укладальнікам дапамагалі адмыслоўцы ў беларускай гісторыі, культуры, архіўнай справе: Ганна Запартыка, Арсень Ліс, Анатоль Сідарэвіч, Андрэй Буча, Аляксандар Пашкевіч, Валянціна Лебедзева і іншыя.

Першай кнігай у новай сэрыі будзе “Выбранае” беларускага грамадзкага дзеяча ў Празе, дзеяча БНР, публіцыста і філязофа Тамаша Грыба. Нягледзячы на дастатковую вядомасьць гэтай асобы, ягоныя тэксты ніколі не выдаваліся ў кніжным фармаце. Раскіданыя па пэрыёдыках 1920-х—1930-х гадоў, а таксама захаваныя ў рукапісах-машынапісах, яны сёньня ўпершыню сабраныя разам і прадставяць чытачу цікавую і разнастайную публіцыстычную і эпісталярную спадчыну праскага беларуса. Кніга выбранага Тамаша Грыба мае выйсьці ў сьвет у ліпені месяцы.

Наступным сэрыйным выданьнем стане “Выбранае” літаратуразнаўцы й філязофа, чалавека, які некалі быў творчым апекуном Янкі Купалы Ўладзімера Самойлы. І ягоная спадчына сабраная пад кіжнай вокладкай таксама ўпершыню.

Выданьні, што рыхтуюцца ў сэрыі, заснаваныя на архіўных і бібліятэчных росшуках. Гэта ня маюць быць вычарпальныя “зборы твораў”, але зборнікі, што разнастайна і шматгранна рэпрэзэнтуюць на сёньня малавядомы ці нават амаль забыты даробак колішніх працаўнікоў беларушчыны. У кніг ёсьць ячшэ адна мэта: ня толькі прадставіць творчую спадчыну аўтараў, але і распавесьці пра іх як асобаў – з увагі на тое, што іхныя біяграфіі да сёньня маюць істотныя лякуны.

Трэцяй пазыцыяй у сэрыі, над якой вядзецца праца, станецца кніга пад назваю “Як укладалі “Спадчыну” – бадай першае беларускае выданьне, у якім распавядаецца гісторыя адной адзінай кнігі – “Спадчыны” Янкі Купалы, выдадзенай у Мюнхэне ў 1955 годзе. Хоць зьмест шырэйшы за назву: у ёй малюецца панарама інтэлектуальнага жыцьця беларускай эміграцыі 1950-х гадоў.

І Тамаш Грыб, і Ўладзімер Самойла, і ўкладальнікі “Спадчыны” Вітаўт Тумаш і Станіслаў Станкевіч былі сябрамі Рады БНР. Таму цалкам лягічна, што сэрыя “Спадчына: агледзіны” мае прысьвячэньне – “Да 100-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі” – наш сьціплы ўнёсак у адзначэньне гэтага важнага юбілею.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА. Лявон ЮРЭВІЧ***

## Марш Паняволеных Народаў

вымушаюць усіх нас зноўку аб’яднацца і выступаць адзіным фронтам, уплываць на палітыку ўраду ЗША праз працу з сэнатарамі й кангрэсмэнамі. Непасьлядоўная ў стаўленьні да Расеі адміністрацыя Трампа, нажаль, пакуль не дае надзеяў у супрацьстаяньні расейскай агрэсіі. Варта адзначыць, што калі ў 2015 годзе ўкраінскія арганізацыі заклікалі розныя этнічныя групы падтрымаць іх падчас дэманстрацыяў у Нью-Ёрку напачатку паседжаньняў Генасамблеі ААН, беларускія ды шматлікія іншыя арганізацыі падтрымалі іх. Калі ж летась украінцаў запрасілі аднавіць дзейнасьць Камітэту Паняволеных Народаў – ніякага адказу не атрымалі. Магчыма, гэта тлумачыцца боязьзю “запэцкацца” асацыяцыяй з прадстаўнікамі колішніх нямецкіх земляў, як

***заканчэньне на бачыне 4***




*Удзельнікі Маршу ля Катэдры сьв. Патрыка*

## Марш Паняволеных Народаў

***заканчэньне з бачыны 3***

Прусаў і Судэтаў, што таксама лічаць сябе паняволенымі. Але, з аднаго боку, іх ужо амаль не засталося, а з другога, чаму несправядлівасьць у adносінах да ўкраінцаў можа быць шырака і адкрыта аспрэчаная, але на немцаў гэта не распаўсюджваецца? Відавочна, тут назіраюцца саступкі дзеля паліткарэктнасьці й палітыкаваньня, але гэта толькі замінае агульнай справе. Ня выключана, што і ўкраінская, і кожная іншая справа можа трапіць у падобную супярэчлівую сытуацыю, а гэтага трэба было б запабегчы.

Беларускія арганізацыі заўсёды бралі актыўны ўдзел у падзеях Тыдня Паняволеных Народаў. Цяпер удзел бярэ БАЗ "Пагоня", і ягоны сябры складаюць пераважную колькасьць удзельнікаў. І сёлета скрозь відаць былі бел-чырвона-белыя беларускія нацыянальныя сьцягі. Удзельнікі Маршу сабраліся а 9-й раніцы пры 59-й вуліцы і 5-й авэню каля гатэлю "Пляза". Затым пайшлі калёнай да Катэдры сьв. Патрыка пры 50-й вуліцы, дзе адбылося асьвячэньне сьцягоў, а затым імша за Паняволеныя Народы. Правіў імшу рэктар Катэдры сьв. Патрыка Монсынёр Робэрт Рычы. Пасьля імшы ўдзельнікі сфатаграфаваліся на прыступках Катэдры, а тады прайшлі маршам па 5-й авэню да 59-й вуліцы. Падчас Маршу гучэлі лёзунгі "Жыве Беларусь!", "Свабоду ўсім паняволеным народам!", "Свабоду Беларусі!" Луналі бел-чырвона-белыя сьцягі, маршыруючыя несьлі плякаты "Свабоду Беларусі", "Далоў Лукашэнку", "Жыве Беларусь".



*Прамаўляе сп. Я. Куум*

Сёлета месца адкрыцьця Тыдню Паняволеных Народаў было зьмененае – дайшоўшы да Калямбус-сыркл маніфэстанты спыніліся каля Мэйн-мэмарыялу пры уваходзе ў Цэнтральны Парк і сфатаграфаваліся з плякатамі па адмыслова беларускіх тэмах змаганьня. Затым сьпяваньнем амэрыканскага гімну адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдню Паняволеных Народаў. Яго адкрыў уступным словам сп. Яан Куўм, дзеючы старшыня Камітэту Паняволеных Народаў і прадстаўнік эстонскай грамады. Сп. Куўм выступіў з прамовай пра неабходнасьць салідарнасьці й падтрымкі мерапрыемстваў Тыдня цяпер, у сьвятле падзеяў у сьвеце і асабліва ў выніку працягу агрэсіі расейскага імпэрыялізму ды ісламскага тэрарызму. Ён зачытаў праклямацыю ад прэзыдэнта Д. Трампа, у якой была выказаная падтрымка змаганьня ўсіх паняволеных народаў і тыдзень 16-23 ліпеня быў абвешчаны Тыднем Паняволеных Народаў.

Ад беларускай грамады выступіў старшыня "Пагоні" сп. Віталь Зайка, які адзначыў, што свабода не даецца бясплатна нікому – і амэрыканцы мусяць помніць пра гэта таксама, як і беларусы. Важным зьяўляецца прыцягненьне да ўдзелу моладзі ў змаганьні за свабоду й дэмакратыю ў Беларусі, а таксама і тут, у Амэрыцы. Была прынятая рэзалюцыя, у якой урад ЗША заклікаецца да актыўнейшай дапамогі Паняволеным Народам і асуджаецца тыранія пост-камунізму ў сьвеце, і ў прыватнасьці ў Беларусі. Прамовы былі зь цікавасьцю выслуханыя прысутнымі, а таксама шматлікімі наведвальнікамі Цэнтральнага Парку.

***Віталь ЗАЙКА***

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

**А. Адамчык** .................60
**І. Анішчанка** ...............60
**Т. Астапенка** ...............60
**А. Бірук** ...................60
**В. Бітус** ...................60
**Т. Бужынская** ...............60
**А. Дзежыц** ..................60
**В. Камоска** .................60
**Я. Кобак** ...................60
**Л. Місевіч** .................60
**А. Мядзьведзеў** .............60
**П. Панасевіч** ...............60
**Я. Стэцко** ..................60
**А. Хвашчэўская** .............60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"** *Viktar Yedzinovich.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "ПАГОНЯ"**

адбудзецца ў суботу **12-га жніўня 2017 года** на Мангэтане ў Цэнтральным парку.

Сход пройдзе на пагорку ля вялікага возера (*The Lake with Boating*) з чаўнамі (паляна знаходзіцца на поўнач ад *Terrace Drive* і на захад ад *The Mall at Bethesda Fountain*) ля вялікіх скалаў-валуноў.

**ЗБОР** а **10.30** раніцы ля ўвахода ў парк пры 5-й авэню і 72-й вуліцы.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца, наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

**Шаноўныя сябры!**

*Калі ласка, сваечасова абнаўляйце падпіску на наш бюлетэнь.* ***(гл. інфармацыю аб стане падпіскі на канвэрце справа ад прозьвішча).***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

**І. Анішчанка** ..............30
**Т. Астапенка** ..............30
**Т. Бужынская** ..............30
**А. Дзежыц** .................30
**Я. Кобак** ..................30
**Л. Місевіч** ................30
**А. Мядзьведзеў** ............30
**П. Панасевіч** ..............30
**Я. Стэцко** .................30
**А. Хвашчэўская** ............30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***

*Паважаныя* ***М. Дзікун, Ю. і І. Валковіч, Ю. Шкода****, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*